# Народны Звон

Беларуская радыкальная часопісь. Орган „Цэнтрасаюзу“.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

**Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:**
**Вільня, Вострабрамская 9, кв. 22**

**Прыймо інтэрэсантаў**
ад 10 да 2 гадз. што-дня,
апрача сьвятаў і нядзель.

**Падпіска з дастаўкай да хаты:**
на 1 год—6 зл., за паўгоду—3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес.—50 гр.

Год I. | Вільня, 10 кастрычніка 1930 г. | №. 1




# Адозва

## Галоўнага Выбарнага Камітэту Беларускага Цэнтрасаюзу

**(Цэнтральнага Саюзу Беларусіх Культурна-Прасьветных і Гаспадарскіх Арганізацыяў і Інстытуцыяў).**

## Да ўсяго Беларускага Народу

## Грамадзяне!

Набліжаюцца выбары, у якіх павінен узяць удзел увесь беларускі народ.

Мы павінны правесьці ў Сойм сваіх прадстаўнікоў, якія-б баранілі нашыя нацыянальна-культурныя і соцыяльна-палітычныя правы.

Заклікаем усё сьвядомае беларускае грамадзянства згуртавацца каля Беларускага Цэнтрасаюзу і пад яго сьцягам правясьці ў Сойм і Сэнат дастойнае прадстаўніцтва.

Сучасныя выбары мусяць аб'яднаць усё беларускае грамадзянства, якое запраўды імкнецца да нацыянальна-палітычнага адраджэньня нашага народу.

Усе, хто спадчуваець ідэям Беларускага Цэнтрасаюзу—павінны прыняць самы жывы ўдзел у прадвыбарнай акцыі і безадкладна зьвязацца з Галоўным Выбарным Камітэтам у Вільні, адкуль будуць высылацца ўселякія інструкцыі і патрэбныя друкі.

Старшыня Галоўнага Выбарнага Камітэту **Ф. Акінчыц.**

Сябры **Грышкевіч, Ільяшэвіч.**

Сэкрэтар **К. Крук.**

Адрэс Гал. Выбарнага Камітэту Wilno, Ostrobramska 9 m. 22.

## З чым мы ідзем да выбараў.

Беларускі „Цэнтрасаюз“ пастанавіў прыступіць да выбараў у Сойм і Сэнат.

Да гэтага кроку змусіла яго тая акалічнасьць, што ў сучасны момант мы ня маем беларускіх палітычных партыяў, якія маглі-б павесьці беларускі народ да выбарных урнаў.

На I сэсіі Галоўнае Рады, якая адбылася 27—28 верасьня г. г. быў прыняты „Наказ“ для кандыдатаў на паслоў, якіх выстаўляе Цэнтрасаюз і якія пойдуць у гэтай выбарнай кампаніі пад яго сьцягам.

„Наказ“, прыняты Цэнтрасаюзам, замяняе сабою тую праграму зьдзейсьненьня якой павінны дабівацца нашыя паслы ў Сойме і ўсё сьвядомае беларускае грамадзянства.

Наказ гэты зьяўляючыся абавязкавым для кандыдатаў на паслоў і сэнатараў, якія ідуць пад сьцягам Цэнтрасаюзу, павінен аб'яднаць і ўсё беларускае грамадзянства.

Мы верым у тое, што найлепшая частка беларускага народу адзавецца на заклік Цэнтрасаюзу гуртавацца каля яго і стане ў нашыя рады, ўзмацніўшы гэтым як сілы Цэнтрасаюзу, так і сілы ўсей беларускай грамадзкасьці.

Мы мусім адзначыць тут, што Цэнтрасаюз выступае ў выбарную акцыю толькі з прычыны таго сумнага стан рэчаў, які наглядаецца на нашых землях і аб чым даволі падрабязна сказана ў самым Наказе.

Галоўнаю мэтаю Цэнтрасаюза зьяўляецца згуртаваньне ўсяго нацыянальна-сьвядомага беларускага грамадзянства каля пазытыўнае працы, па нацыянальнаму і культурнаму адраджэньню нашага народу.

Сучасныя выбары становяцца як-бы пераглядам нашых сілаў, тых сілаў, якія запраўды імкнуцца да высокіх мэтаў, крэсьляных у „Наказе“.

Няхай гэтыя сілы будуць пакуль што невялікія—мы верым у тое, што з часам яны разрастуцца і ўсё сьвядомае беларускае грамадзянства з'арганізуецца для працы пад кіраўніцтвам свайго Цэнтрасаюзу.

---

У аб'яднаньні—сіла і шлях да лепшае будучыні.

# НАКАЗ

**Галоўнай Рады Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарскіх Арганізацыяў і Інстытуцыяў кандыдатам на паслоў у Сойм і Сэнат, прыняты і зацьверджаны на I Сэсіі Галоўнай Рады—28 верасьня 1930 г. ў зьвязку з выбарамі.**

### I.

Ад 1922 году частка Беларускага народу, якая апынулася ў межах Польскае Рэспублікі прыймала ўдзел у Соймавых выбарах, ідучы за тымі палітычнымі партыямі, якія існавалі на нашых землях. Але ў сучасны момант, у выніку цэлага раду прычын, палітычнае жыцьцё, пасколькі яно ўкладаецца ў палітычных партыях, сярод беларускага народу—можна сказаць—ня існуе. Зьняўшы з рахунку падпольную Камуністычную партыю, якая фактычна стаўляе сабе зусім адменныя мэты, нічога супольнага ня маючыя з нашым ідэалам культурнага і нацыянальна-палітычнага адраджэньня—мы апынімся перад тым сумным фактам, што беларускіх палітычных партыяў у поўным значэньні гэтага слова, якія-б кіравалі нашым палітычным жыцьцём, як гэта ёсьць у іншых народаў,—мы ня маем. Тыя-ж групы грамадзян, якія час ад часу імкнуцца выявіць сябе ў нашым палітычным жыцьці,—назваць палітычнымі партыямі ня можна, хаця-ж бы нават з тае прычыны, што яны ня маюць цьвёрдай і акрэсьлянай праграмы па цэламу раду асноўных пытаньняў палітычнага і соцыяльнага зьместу і ў шырокіх масах не працуюць. Уся іх дзеяльнасьць выяўляецца бадай выключна падчас прадвыбарнай гарачкі—і носіць выразна спэкуляцыйны характар.

Зразумела, што ад такіх партыяў няма чаго спадзявацца беларускаму народу, бо гэтыя групы людзей—нават каб і хацелі стварыць нешта карыснае для краю—ня могуць гэтага зрабіць перадусім з тае прычыны, што ня маюць за сабою арганізаванае сілы, з якою бы лічыўся ўрад і ўсё польскае грамадзянства.

Існавала аднак у нас вялікая палітычная арганізацыя, якая ўзварушыла ўвесь край і якая была зьліквідавана польскімі ўладамі. Бязумоўна, калі-б існавала „Грамада“,—яна ў сучасны момант магла-б павесьці за сабою шырэйшыя масы, ператварыўшыся ў палітычную партыю ў поўным значэньні гэтага слова. Але Грамада зьліквідавана, і мы стаімо цяпер перад тым фактам, што пры сучасных выбарах у Сойм мы ня маем ніводнае беларускае палітычнае партыі, якая-б гуртавала каля сябе шырэйшыя кола грамадзянства.

Гэты сумны для нашага палітычнага жыцьця факт можа прывесьці да двух вывадаў: або мы зусім мусім адмовіцца ад удзелу ў выбарах і скіраваць свае высілкі на палітычную і грамадзкую працу раней у бок стварэньня моцных палітычных партыяў, навокал якіх гуртаваліся-б розныя слаі нашага жыхарства, або прыняць удзел у сучасных выбарах і шукаць нейкага іншага выхаду ў стварыўшагася вельмі некарыснага для нас палажэньня.

Зразумелая рэч, што адмовіцца ад выбараў мы ня можам—адмова ад іх значыла бы для нас самаліквідацыю, на што ні адзін жывы народ ня пойдзе.

Трэба ісьці да выбараў у Сойм, трэба правадзіць туды сваіх беларускіх паслоў і трэба, ня гледзячы на поўную адсутнасьць у нас беларускіх палітычных партыяў,—гуртавацца каля нейкіх іншых беларускіх цэнтраў.

Якія-ж „іншыя“ цэнтры беларускага жыцьця існуюць на нашых землях.

Такімі цэнтрамі, якія нават у сучасных цяжкіх умовах жыцьця вядуць штодзенную, ціхую, але неабходную і карысную працу для ўсяго таго, што лічыць сябе беларускім,—зьяўляюцца нашыя культурна-асьветныя і гаспадарчыя ўстановы.

Ня гледзячы на ўсе атакі, якія валіся на нашыя культ-установы з розных бакоў—як з боку шовіністычных польскіх паноў, так і з боку розных беларускіх дэмагогаў, яны ўсё-ж такі здолелі ўтрымацца і нават пашырыць і ўзмацніць сваю дзеяльнасьць.

Гэтыя ўстановы і арганізацыі зьяўляюцца ў сучасны момант запраўднымі і адзінымі рассаднікамі беларускае культуры і нацыянальнае сьвядомасьці сярод беларускіх масаў. Слабыя паасобку, яны аб'ядналіся ў адзін моцны Саюз — Цэнтральны Саюз Беларускіх культурна-Асьветных і Гаспадарскіх Арганізацыяў і Устаноў,—і Цэнтрасаюз зьяўляецца цяпер галоўным асяродкам нашага грамадзкага і нацыянальнага жыцьця. Дык зразумела, што ніхто іншы, толькі Цэнтрасаюз і павінен узяць ініцыятыву ў рукі і павесьці ўсё сьведамае беларускае грамадзянства да выбараў у Сойм.

Узяўшы ўдзел у выбарах, Цэнтральны Саюз тым самым бярэ маральную адказнасьць за тых беларускіх паслоў, якія пройдуць у Сойм і Сэнат пад яго сьцягам для барацьбы за лепшую будучыню ўсяго нашага народу. Дзеля гэтага кандыдаты Цэнтрасаюзу павінны мець усе патрэбныя кваліфікацыі на выбранцаў народу — нацыянальныя сацыяльныя і маральныя.

### II.

Цэнтральны Саюз, не зьяўляючыся палітычнай партыяй з цьвёрда ўстаноўленай праграмай, можа і павінен сказаць сваім кандыдатам у паслы, ў якім кірунку павінна разьвівацца іх праца, каб у сучасны момант унутранае барацьбы між палітычнымі партыямі Польшчы, інтарэсы і патрэбы беларускіх працоўных масаў ня былі забыты. Дзеля гэтага Цэнтрасаюз і дае будучым беларускім паслом і сэнатарам наступны наказ, навакол якога, па думцы Цэнтральнага Саюзу, павінна гуртавацца і ўсё нацыянальна і палітычна сьвядомае беларускае грамадзянства.

#### А. Палітычныя дамаганьні.

§ 1. Канчальнаю мэтаю, да якой павінны імкнуцца ўсе нацыянальна сьвядомыя Беларусы зьяўляецца аб'еднаньне і злучэньне ў Незалежнай Рэспубліцы ўсіх беларускіх зямель.

§ 2. Лічучыся з тым, што дасягненьне вышэйпададзенай мэты можа наступіць толькі дзякуючы спрыяючым акалічнасьцям, маючым сусьветнае значэньне, і што да гэтага часу павінна быць адпаведна ўрэгулявана палітычнае жыцьцё беларускага народу ў тых дзяржавах, у якіх ён апынуўся — ў тым ліку і ў Польшчы — нашы паслы а за імі і ўсё беларускае грамадзянства мусяць дабівацца заканадаўчага акту аб шырокай аўтаноміі на Беларускіх землях з краёвымі заканадаўчаю, выканаўчаю і судоваю ўладамі.

§. 3. Да часу выданьня заканадаўчага акту аб аўтаноміі Заходняе Беларусі як нашыя паслы ў Сойме і Сэнаце, так і ўсё беларускія Арганізацыі і Інстытуцыі павінны дамагацца ад ураду поўнага здаваленьня патрэбаў нашага нацыянальна-палітычнага і культурна-гаспадарчага жыцьця, прымаючы пад увагу імкненьне нашага народу, гістарычна зьвязанага з сваёй тэрыторыяй, да нацыянальнага і палітычнага адраджэньня.

§ 4. Даючы наказ змагацца за нашыя неад'емныя правы мэтадамі і спосабамі, якія прадугледжаны існуючымі законамі Польшчы, Цэнтральны Саюз даручаець сваім паслом весьці няўхільнае змаганьне перадусім за самыя палючыя патрэбы беларускіх працоўных масаў: 1) за зямлю бяз выкупу, 2) проціў ненармальных падаткаў, 3) за родную школу, 4) за беларусізацыю праваслаўнай царквы і каталіцкага касьцёлу, 5) за пашырэньне розных відаў каапэрацыі і выданьне дапамогаў ім, 6) за палітычныя свабоды, 7) за запраўды роўныя правы ўсіх грамадзян, незалежна ад іх нацыянальнасьці і ве-

ры, 8) за аддзяленьне царквы, ад дзяржавы і 9) за ўсё тое, што будзе ісьці на карысьць працоўным масам.

### Б. Дамаганьні ў справе зямельнай.

Аднэй з найбольш актуальных справаў у Заходняй Беларусі зьяўляецца зямельная справа. Малазямельле і цэразпалосіца (шахоўніца) ня толькі зьяўляюцца прычынай незабяспечнасьці жыцьцёвых патрэбаў сялянства, але і стаяць яшчэ на перашкодзе гаспадарчаму поступу Зах. Беларусі наагул. Прыймаючы ўсё гэта пад увагу і выходзячы з прынцыпу, што кожны працуючы мае права як на працу, так і на прадукт сваёй працы,—нашае прадстаўніцтва ў Сойме і Сэнаце павінна дамагацца:

1) Перадачы адпаведных ужытковых земляў у рукі працоўных сялян, якія іх патрабуюць, бяз выкупу. Норма надзяленьня зямлёю павінна быць ня вышэй працоўнай і ня ніжэй спажыўчай.

2) Выдачы малазямельным і бяззямельным сялянам дапамогі ад дзяржавы на загаспадараваньне пры надзяленьні іх зямлёю.

3) Дапамогі ад дзяржавы на паляпшэньне існуючых гаспадарак працоўнага сялянства шляхам арганізацыі беспрацантовага ці нізкапрацантовага крэдыту.

4) Абніжэньне ўсіх падаткаў, якія зьбіраюцца з сялянства.

5) Урэгуляваньня справы сэрвітутаў на карысьць працоўнага сялянства.

6) Спыненьня і скасаваньня цывільнага і вайсковага асадніцтва.

У выпадку перасяленьня на хутары—або на пасёлкі — малазямельным павінна быць дадзена прырэзка зямлі, а ўсё наагул сялянства, якое пераходзіць на хутары, павінна атрымоўваць запамогі ад дзяржавы,—грашыма, інвэнтаром, будаўляным матэрыялам і звальняцца на даўжэйшы час ад падаткаў. Усе кошты, зьвязаны з пераходам на хутары, дзяржава павінна прыняць на сябе.

7) Павінна быць праведзяна шырокая мэліорацыя (а перадусім асушка балот і лугоў) на скарбовы кошт паводле шырокага дзяржаўнага пляну.

8) Усё сялянства наагул павінна быць забясьпечана шырокай агранамічнай помаччу і танным крэдытам.

9) Поўная забясьпечанасьць сялянства лесам і апалам на льготных і даступных варунках.

10) Урэгуляваньне збажовых цэнаў і цэнаў на сялянскія прадукты з тым разрахункам, каб сельска-гаспадарчая прадукцыя давала сялянству магчымасьць шырокага набываньня прадуктаў прамысловасьці.

11) Звальненьне ад усіх падаткаў тых раёнаў, якія пацярпелі ад неўраджаю і аказаньне ім усякіх дапамог ад дзяржавы, таксама выдатная дапамога паасобным сялянам, якія пацярпелі ад пажару, градабіцьця і іншых няшчасьцяў.

12) Увядзеньне адзінага налогу — гэта значыць, каб падатак вызначаўся раз у год па адным аплатным наказе з разлажэньнем на раты.

13) Пашырэньне сярод сялянства ўсякіх відаў каапэрацыі. Дапамогі ад дзяржавы на каапэрацыйнае будаўніцтва і правядзеньне каапэрацыі сельскай гаспадаркі ў дзяржаўным маштабе.

Неадкладная распрацоўка пляну рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на каапэрацыйных падставах і правядзеньне ў жыцьцё адпаведных падстаў каапэратыўнай палітыкі, маючай на мэце скаапэраваньне ўсей сельскай гаспадаркі і паднясьце яе выдатнасьці.

14) Арганізацыя густой сеткі сельска-гаспадарскіх і каапэрацыйных курсаў і школаў для моладзі і дарослых з выкладоваю беларускаю мовою ў тых мейсцох, дзе большасьць вучняў беларускага паходжаньня.

### В. Дамаганьні ў справе самаўрадаў.

1) Усе самаўрады гмінныя, павятовыя і ваяводзкія павінны выбірацца агульным галасаваньнем.

Круг дзеяльнасьці самаўрадаў павінен быць пашыраны.

2) Унезалежненьне самаўрадаў ад адміністр. уладаў.

3) Аднэю з важнейшых галін самаўрадавай працы павінна быць забясьпечаньне вёсцы бясплатнай мэдыцынскай помачы, забясьпечаньне апекі над сіротамі, бездаглядными калекамі і старымі.

4) Павінны быць скасаваны натуральныя павіннасьці.

### Г. Дамаганьні ў Работніцкіх справах.

1) 8 гадзінны рабочы дзень, нядзельны адпачынак і платныя водпускі.

2) Забарона працы дзяцей і палепшаньне санітарных варункаў працы на фабрыках.

3) Мінімум заработнае платы.

4) Дзяржаўнае страхаваньне работнікаў гораду і вёскі ад хваробы, калецтва, безрабоціцы і на старасьці.

5) Свабода прафэсыянальных саюзаў і свабода стачак.

6) Выплата безработным гораду і вёскі дапамог у разьмеры пражытачнага мінімума.

7) Арганізацыя публічных работ.

### Д. Дамаганьні ў справе культурна-асьветнай.

Прыдаючы аграмадную вагу справам культурна-асьветным, асабліва ў той час, калі беларускі народ стыхійна імкнецца да свайго нацыянальнага і культурнага адраджэньня, лічым, што ў гэты гістарычна адказны момант нішто не павінна стаяць на перашкодзе да гэтага імкненьня.

Аднэй з галоўных перашкодаў зьяўляецца амаль поўная немагчымасьць для беларускага грамадзянства праводзіць культурна-асьветавую працу ў сваей роднай мове і нацыянальным напрамку сярод беларускага народу.

У зьвязку з гэтым нашае прадстаўніцтва ў Сойме і Сэнаце і ўсе нашыя арганізацыі і інстытуцыі будуць дамагацца:

1) Зраўнаваньне правоў беларускае мовы з правамі дзяржаўнае і паслугоўваньня ёю ўва ўсіх дзяржаўных і самаўрадавых установах на беларускіх землях.

2) Неадкладнае скасаваньне крыўднае для беларускага народу так званае языковае ўставы з дня 31 ліпня 1924 году.

3) Адчыненьне пачатковых школ з выкладовую беларускаю моваю ў той колькасьці, якая будзе адпавядаць патрэбам беларускага народу.

4) Безадкладнага адчыненьня беларускіх пачатковых школаў усюды, дзе бацькамі былі ўжо складаны адпаведныя дамаганьні.

5) Здаволеньня патрэбаў сярэдняга беларускага школьніцтва і адчыненьня адпаведнай колькасьці сярэдніх агульна-асьветных і прафэсыянальных школаў, з выкладовою беларускаю моваю.

6) Для кіраваньня беларускімі школамі розных тыпаў стварэньне спэцыяльнай, сцэнтралізаванай у Вільні, школьнай адміністрацыі, якая павінна складацца з кандыдатаў высуненых праз Цэнтральны Саюз Белар. Культурна-Асьветных і Гаспадарскіх Арганізацыяў і Інстытуцыяў і зацьверджаных адпаведнымі ўладамі.

7) Неадкладнае беларусізацыі духоўных школаў і кансысторыяў.

8) Стварэньня пры Віленскім Унівэрсытэце Беларускага Пэдагагічнага інстытуту.

9) Ахароны беларускіх культурных здабыткаў і памяткаў, выдатнай дапамогі культурна-асьветным і навуковым інстытуцыям на іх працу.

## Грамадзяне!

Вашым абавязкам зьяўляецца падтрымоўваць і пашыраць незалежныя беларускія часопісы і газэты.

Яны могуць выходзіць рэгулярна толькі тады, калі грамадзянства будзе высылаць падпісную плату.

Не забывайцеся выконваць свой грамадзкі абавязак—высылайце падпісную плату за газэту і пашырайце яе сярод беларускага сялянства і работніцтва.

## На выбары—бяз грошы!

Выбары ў польскі Сойм і Сэнат, якія адбываюцца каторы ўжо раз на нашых вачох, выклікаюць нязвычайна вострую барацьбу паміж палітычнымі партыямі, якія гэтым шляхам імкнуцца да ўлады ў дзяржаве. А найбольш моцным аружжам іх у гэтай барацьбе зьяўляюцца **грошы**.

Асабліва ярка бачылі мы гэта на сёлетніх дапаўняючых выбарах у Сьвянцянскім і Лідзкім акругох. Як каршуны, пазьляталіся тут з усяе Польшчы выбарныя агэнты польскіх партыяў і, ня гледзячы на тое, што гэным агэнтам прышлося „працаваць“ сярод чужога ім беларускага насяленьня, яны сваёй мэты дапялі: яны патрапілі прамовіць да выбаршчыкаў вельмі красамоўным голасам—**звонам грошы**... І мы ведаем, што ў нас па вёсках вытварылася як-быццам **спэцыяльная прафэсія**—выбарных агітатараў, якія агітуюць за кожны сьпісак, абы толькі былі за гэта заплачаны грошы. Мы ведаем і такія выпадкі, што пабіты нейкай партыйнай баёўкай на вечы, выслаьнік другое партыі зварачаўся да тых, хто біў яго, клікаў іх у шынок і „перакупляў“, плацячы больш грошы, ды разам з новымі сваімі памоцнікамі ехаў у другое мястэчка разьбіваць чужы мітынг. Сярод нашага сялянства пайшла такая **дэмаралізацыя**, што бяз грошы ані падступайся! І ня дзіва, што лепшыя элемэнты вёскі на апошніх выбарах проста махалі на ўсё рукой і зусім ня йшлі на выбары: у Лідзкім і Сьвянцянскім акругох **70 прац. выбаршчыкаў байкатавалі выбары.**

Цяперашнія выбары, якія вызначаны на лістапад, будуць адбывацца ў крыху іншых варунках. Цяпер выбары пойдуць адразу па ўсенькай Польшчы, дык партыі мусяць усюды „працаваць“, каб нечага дабіцца. Дык і грошы шмат ня кінеш на нейкі адзін-два вакругі: на ўсе вокругі трэ дзяліць па крысе. Да таго-ж партыйныя арганізацыі ў Польшчы вельмі зьбяднелі ад выбараў 1928 году і не пасьпелі гэтак скора сабраць новых запасаў грошы на скупку галасоў. Вось і выходзе, што гэтым разам **рашаць аб выніку выбараў будуць ня гэтулькі грошы, колькі сьвядомасьць і актыўнасьць нашых сялянскіх масаў.**

На гэту сьвядомасьць і актыўнасьць усіх жывых беларускіх сілаў вёскі і разьлічае Цэнтрасаюз, выступаючы з сваім самастойным сьпіскам. **Грошы Цэнтрасаюз на выбарную акцыю ня мае**, бо-ж усе беларускія культурна-асьветныя і гаспадарскія арганізацыі і ўстановы, якія аб'ядналіся ў Цэнтрасаюзе, самі ледзьве-ледзьве дыхаюць. Але **яны маюць адну перавагу** над усімі палітычнымі партыямі і групамі, з якімі Цэнтрасаюзу прыдзецца весьці выбарную барацьбу.

**Усе тыя партыі, якія прагавіта працягваюць свае рукі па пасольскія мандаты ад беларускіх сялянскіх і работніцкіх масаў,** („Партыя Хлопска“, „Вызваленьне“, „ППС“, „Б. Б.“, польскія эндэкі і хадэкі, ды нашыя „радзімыя“ хадэкі й сельсаюзьнікі), зьяўляюцца **ў беларускія вёскі з сваімі юдавымі срыбнікамі толькі тады, як пачынаюцца выбары. Рэшту часу—аб іх ніхто і ня чуе і іхняе „працы“ ня бачыць.** Наадварот, **беларускія культурна-асьветныя і гаспадарчыя арганізацыі і ўстановы**, аб'яднаныя ў Цэнтрасаюзе, **ужо дзесяткі гадоў, з дня на дзень вядуць сваю мо' нявідную, не крыклівую, але карысную працу**, нясучы ў вёску сьвятло культуры і ўзгадоўваючы сялянскіх дзяцей на будучых інтэлігентаў, сьвядомых сваёй нацыянальнай прыналежнасьці, крэпка зьвязаных з роднай вёскай і сваім беларускім народам, якія павядуць да лепшае, яснейшае долі. І гэтая праца сама за сябе гаворыць, даючы аднэчасна паруку, што ў гэты пераломны для Польшчы час, калі ў ёй ідзе такое вострае змаганьне між палітычнымі партыямі за ўладу, **паслы Цэнтрасаюзу ня будуць займацца дэмагогіяй, а будуць цьвёрда бараніць патрэбы і правы нашага народу,** аб якіх назьдзіў лёгка забываюцца прадстаўнікі „дзяржаўнае“ нацыі нават і ў зусім нармальныя, супакойныя часы.

Беларускія працоўныя масы мусяць гэта ўрэшце зразумець. Мусяць зразумець, што **тыя партыі, якія выкідаюць мільёны злотых на выбарную агітацыю, пасьля—здабыўшы ўладу—ўсе кошты атрыманьня пасольскіх мандатаў спаганяюць з сваіх-жа выбаршчыкаў, ускладаючы на іх новыя падатковыя цяжары.**

**Цэнтрасаюз галасоў ня купляе, агэнтаў платных не наймае.** Цэнтрасаюз заклікае пад свой сьцяг усе здаровыя, няздэмаралізаваныя яшчэ, запраўды **ідэйныя элемэнты** беларускае вёскі і беларускага места і крэпка верыць, што ўсе лепшыя сыны нашага сярмяжнага народу пададуць свае галасы за кандыдацкія сьпіскі Цэнтрасаюзу.

Даволі агіднага торгу сумленьнем народным!

**Хадзем на выбары—бяз грошы!** І нашым адзіным аружжам хай будзе сьвядомасьць, што мы служым вялікай і сьвятой народнай справе, справе нацыянальнага і сацыяльнага прабуджэньня і вызваленьня працоўных масаў беларускага народу.

## Беларускія Выбарныя Вокругі.

З пасярод усіх выбарных вокругаў у Сойм, якіх налічваецца на ўсей Польшчы аж 64, беларускія вокругі, або часткова беларускія, зьяўляюцца наступныя: Вокруг № 4, абыймаючы паветы Бельскі, Востраўскі і Высокае Мазавецкае, з якіх беларускія ёсьць толькі Бельскі павет, рэшта польскія. Вокруг гэты мае 4 мандаты; Вокруг № 5 паветы: Беластоцкі (з горадам Беласток), Сакольскі і Ваўкавыскі, вокруг чыста беларускі, маючы 6 мандатаў, вокруг № 6, паветы Горадзенскі (з горадам Горадняй), Аўгустоўскі, Сэйнінскі і Сувальскі, маючы 4 мандаты. З гэтага вокругу беларускімі зьяўляюцца толькі паветы Горадзенскі і Аўгустоўскі, рэшта літоўскія і польскія; вокруг № 59 з паветамі Берасьцейскім, Кобрынскім, Пружанскім, Косаўскім, Драгічынскім і Камень-Кашырскім, з якіх усе беларускія, а толькі адзін апошні ўкраінскі. Вокруг мае 5 мандатаў; вокруг № 60 з паветамі Пінскім, Лунінецкім і Сарненскім, з якіх два першыя беларускія, апошні ўкраінскі. Вокруг гэты мае 5 мандатаў; вокруг № 61 чыста беларускі з паветамі Навагрsuccскім, Стаўпецкім, Нясьвіскім, Баранавіцкім і Слонімскім, маючы 6 мандатаў; вокруг № 62 таксама чыста беларускі, абыймаючы паветы Лідзкі, Ашмянскі, Валожынскі, Маладэчанскі, Вялейскі і Шчучынскі, а мае аж 7 мандатаў; вокруг № 63, абыймаючы горад Вільню з паветам Віленска-Троцкім, маючы 5 мандатаў. У гэтым вокрузе апрача беларусоў ёсьць шмат палякоў, ліцьвіноў і жыдоў. Вокруг № 64 з паветамі Сьвянцянскім, Браслаўскім, Дзісьненскім і Пастаўскім. Вокруг чыста беларускі, маючы 6 мандатаў.

Такім спосабам аблічаючы, калі-б усе беларусы галасавалі толькі за свой беларускі сьпісак і бяручы пад увагу акругі ня чыста беларускія,

то беларускіх паслоў па акруговых сьпісках магло-б сьмела прайсьці ў Сойм каля 38 асоб, а далічаючы да гэтага прыблізна з лісты дзяржаўнай паводле ліст акруговых каля 9 асоб, **разам усіх беларускіх паслоў магло-б быць у Сойме аж 47 асоб.**

Да Сэнату-ж выбарныя вокругі становяць існуючыя ваяводзтвы. Беларускія ваяводзтвы наступныя: 1. Беластоцкае з 4 мандатамі, з якога пару паветаў ня беларускія; 2. Палескае з 3 мандатамі, у склад каторага ўходзяць некаторыя паветы ўкраінскія; 3. Наваградзкае з 3 мандатамі—чыста беларускае і 4. Віленскае, таксама амаль чыста беларускае, з 4 мандатамі.

Такім спосабам па акруговых сьпісках мы маглі-б правясьці беларускіх сэнатараў каля 10 асоб і прапарцыянальна да гэтага з дзяржаўнага сьпіску да 2 асоб, **разам усяго каля 12 сэнатараў.**

Такім спосабам, калі-б беларускі народ быў поўнасьцю сьвядомы і меў адпаведнае грамадзкае ўзгадаваньне, то сьмела мог-бы мець у Сойме сваіх паслоў каля 47 асоб на агульную лічбу ўсіх паслоў 444, і каля 12 сэнатараў на агульную лічбу ўсіх сэнатараў—111.

Вось бачыце беларусы, чаго даводзе нашая несьвядомасьць і цемра, калі мы з так вялікага прастору Заходняе Беларусі праводзім сваіх прадстаўнікоў у Сойм і Сэнат толькі маленькую частку таго, што нам належыцца і то з вялікімі высілкамі. А пры нашым належным стане, калі-б мы мелі вышэй пададзеную лічбу соймовых і сэнацкіх прадстаўнікоў, то ўсё-ж такі маглі-б вельмі многа чаго для сябе дабіцца.

**Аглядчык.**

# Прадвыбарная хроніка.

### Зрыў адзінага беларускага фронту.

Згодна з пастановай Першае Сэсіі Галоўнае Рады Цэнтрасаюзу, Выбарны Камітэт Цэнтрасаюзу распачаў перагаворы з хадэцка-сельсаюзьніцкай Выбарнай Камісіяй аб стварэньні адзінага беларускага выбарнага фронту. Прадстаўнікі камісіі, грам. Ярэміч і адказны рэдактар „Беларускае Крыніцы“ Янка Пазьняк зумысьля зацягівалі перагаворы, а тым часам зьвязаліся з украінскімі партыямі на няведамых нікому варунках, аб чым заявілі ў апошні мамэнт і гэтак **сарвалі адзіны беларускі выбарны фронт.**

Падробнасьці падамо ў наступным нумары.

### Дзяржаўны сьпісак кандыдатаў у Сойм, зложаны праз урадовы „Бэспартыйны Блёк“.

6 верасьня зложаны да Дзержаўнай Выбарчай Камісіі сьпісак кандыдатаў Б. Б.

На 1 мейсцы стаіць Язэп Пілсудскі,—першы маршалак Польшчы, далей ідуць: Валеры Славэк, Казімір Сьвітальскі, Аляксандр Прыстар, Ян Пілсудскі, гэн. Славой-Складкоўскі і іншыя.

# Прымусовае выкупляньне грунтаў на тэрыторыі б. расейск. панаваньня.

На тэрыторыі б. расейск. панаваньня, а асабліва на „Усходн. Крэсах“ знаходзіцца шмат будынкаў, пабудаваных на арэндаванай зямлі. Уласьнікі будынкаў не зьяўляюцца ўласьнікамі грунтаў, на якім стаяць будынкі. Паводле дацяперашніх законаў, выкупляньне такіх грунтаў спатыкалася з вялікімі перашкодамі з праўнага боку, у той час, калі ўласьнік грунту па сканчэньні важнасьці ўмовы, меў права „выэксмітаваць“ уласьніка будынку. У такіх выпадках паўставала заўсёды ня мала непаразуменьняў, якія сканчаліся каштоўнымі судамі і то па большай частцы не ў карысьць арэндатара.

Польскія газэты падаюць, што Міністэрства Справядлівасьці выпрацавала праэкт закону аб прымусовым выкупленьні арэндаваных і забудаваных грунтаў. У сучасным часе праэкт гэты ўзгодніваецца з іншымі зацікаўленымі міністэрствамі і потым увойдзе ў жыцьцё. Новы закон падасьць варункі на якіх уласьнік грунту будзе змушаны да прадажы арэндатару ўчастка зямлі паводле мясцовых ацэнак.

# Беларусы і выбары у Сойм і Сэнат.

16 лістапада с. г. адбудуцца агульныя выбары ў Сойм, а 23 лістапада—ў Сэнат. Гэты момант павінен мець для беларускага народу ў Заходняй Беларусі аграмаднае значэньне, бо вынікі іх пакажуць ня толькі сярод нас самых, але і перад усім сьветам, нашую грамадзкую сьпеласьць, нашае няўстрыманае імкненьне будаваць, не зважаючы на ўсякія перашкоды, уласнымі рукамі, свой лепшы быт. Кожныя выбары, калі яны толькі паводле законаў праводзяцца, гэта ёсьць проба сілаў, проба магутнасьці тае ці іншае палітычнае думкі.

Нашае соймавае прадстаўніцтва, паміма найлепшай сваёй волі, ніколі на соймавым груньце ня можа для нас дабіцца пэўных палёгкаў у шырэйшым разьмеры, бо каб правясьці ў Сойме нейкі закон, то на гэта патрэбна большасьці галасоў.

Але ня гледзячы на тое, што Беларусы, нават узятыя разам з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі, ніколі ня будуць мець большасьці ў Сойме, усё-ж такі маюць магчымасьць бараніць свае інтарэсы, могуць хоць **крычаць на ўвесь сьвет аб нашым гаротным палажэньні.** І гэта апошняе мае ўжо даволі вялікае значэньне. Але непараўнальна большае значэньне мае той факт, што калі мы правядзём ў Сойм і Сэнат як найбольш прадстаўнікоў ад беларускага народу, то гэтым самым як было зазначана вышэй, мы сьведчым аб сваёй жывучасьці, мы гэтым самым заяўляем перад усім сьветам, што беларускі рух, на перарок цьверджаньням польскіх шовіністаў, расьце і набірае што раз большага размаху, што справа вызваленьня Беларусі ня пісана „мёртвымі літарамі“, як гэта стараюцца сяньня выказываць многія.

І зусім памылковыя настроі нашага сялянства, палягаючыя на тым, што раз новавыбранцы-паслы нічога рэальнага нам ня прыносяць, то знача, ня трэба зусім і iсьці на выбары. Мыляецца кожны, хто так думае. Бо трэба ведаць, што незалежна ад таго, ці мы будзем галасаваць ці не, усё роўна выбары адбудуцца і з кожнага вокругу будзе выбрана адпаведная лічба паслоў і гэтыя паслы якраз будуць выбраны не ад нашага, а ад варожых нам сьпіскаў. Тым самым, што мы ўстрымаемся ад галасаваньня не палепшым зусім справы, а наадварот — пагоршым яе ў некалькі раз, бо ня будзем мець свайго прадстаўніцтва ў Сойме і Сэнаце.

Паміма аднак таго, што ў сучаснай Польшчы з народнымі прадстаўнікамі на соймавым груньце амаль зусім ня лічуцца, то ня гледзячы на гэта ўсё-ж такі яны нешта для нас зрабіць могуць. Мы часта наракаючы на сваіх паслоў гаворым, што яны нічога для нас добрага не зрабілі. Але не ўяўляем часта і таго, як аднак нашыя справы выглядалі, каб нашых паслоў зусім ня было ў Сойме? Тыя сотні інтэрпэляцыяў, якія ў свой час нашыя прадстаўнікі складалі ў Сойме, праўда, і сягоньня ляжаць нейдзе пад „зялёным сукном“, аднак той факт, што яны, хоць бяз выніку, змагаліся за нашыя інтарэсы, прыносіць нам пэўнае маральнае падтрыманьне, гэта дае ў нашым гаротным жыцьці думаць, што ёсьць усё-ж такі людзі, якія за нас могуць змагацца. А ці рабілі-б гэта прадстаўнікі нябеларускіх сьпіскаў, якія-б з нашых земляў, на мейсцы нашых паслоў, калі-б мы іх не выбіралі, пралезьлі ў Сойм? Так, яны працавалі-б, ох, як працавалі-б, але дзеля таго толькі, каб нас далей эксплёатаваць, каб і надалей трымаць нас у цемры і ў нацыянальнай і сацыяльнай несьвядомасьці.

З другога боку ўжо сяньня ў агульнаэўрапэйскім палітычным жыцьці беларуская справа, якая яшчэ так ня даўна ня была нікому знанай, становіць да пэўнае меры прадмет частых разважаньняў.

Голас беларускага працоўнага народу праз вусны яго лепшых сыноў чуець сяньня ўвесь цывілізаваны сьвет і часта змушаны з ім лічыцца. То як-жа марна стаяла-б беларуская справа ў агульнаэўрапэйскім маштабе, калі-б мы ў момант

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Нямецкая прэса аб барацьбе ў Зах. Галічыне.

Нямецкая прэса шмат мейсца ахвярує тэй барацьбе, якая ідзе ў Заходняй Галічыне, прадстаўляючы тое, што робіцца там, як „запраўдную хатнюю вайну“. Віну за выбух гэтай „хатняй вайны“ нямецкая прэса кідае на польскі ўрад, тасуючы залішня суровыя меры проці ўкраінцаў. Гэтыя суровыя меры, якія тасуе польскі ўрад проці тэрору і сабатажу ўкраінцаў, нямецкая прэса тлумачыць выбарнай кампаніяй. Польскі ўрад быццам мае намер жорсткай расправай з украінскім насяленьнем застрашыць выбаршчыкаў дый змусіць іх—або ўстрымацца ад выбараў або галасаваць за ўрадавыя сьпіскі... Польская прэса — наадварот—тлумачыць разгарэўшуюся хвалю ўкраінскага тэрору і сабатажу інтрыгай Нямеччыны, якая быццам кідае вялізарныя грошы ўкраінскім тэрарыстычным арганізацыям, каб рабілі прыкрасьці Польшчы на міжнародавым груньце.

## Заграніцай.

### Канец Брыяна і яго палітыкі (?).

У Францыя зрабіла вялікую сэнсацыю, здавалася-б, звычайнае спатканьне ў адным з краёвых курортаў „трох кітоў“ французкай правіцы: Пуанкарэ, Тардье (сучасны прэм'ер) і Мажыно.

Гэтую нараду прэса ставіць у сувязь з новым паваротам французкай замежнай палітыкі, якая мае распачацца... без Брыяна. Брыян пацярпеў падвойную паражку на полі міжнародным: у Лізе ўрачыста правалілася яго „пан Эўропа“, ў „згітлярызаванай“ Нямеччыне правалілася яго „палітыка Лекарно“. Хаўтуры самога Брыяна, трэба думаць,—пытаньне блізкіх дзен.

Нямецкая дэмакратычная прэса ўжо служыць паніхіды па Брыяне.

На чале французкага ўраду мае быццам стаць ізноў Пуанкарэ, што будзе адказам Францыі на перамогу Гітляра ў Нямеччыне. Замест французка-нямецкага збліжэньня наступае ізноў пэрыяд завастрэньня гэтых стасункаў.

### Інфляцыя ў СССР.

З Масквы даносяць, што радавы камісарыят фінансаў пастанавіў выпусьціць новых папяровых грошаў—вартасьці ў 1, 3 і 5 рублёў—на вялізарную суму, роўную ўсей суме пушчаных цяпер у ход чырвонцаў. Такім чынам паперавых грошаў мае быць больш на 25% проці таго, што дазваляе існуючы ў Радах „закон“. Як ведама, дагэтуль уся сума грашавога абароту ў радах была забясьпечана золатам Гас. Банку толькі на 25% сваёй вартасьці. Такім чынам з новым выпускам паперавых грошаў ці грашовай паперы іх „залатое пакрыцьцё“ будзе складаць толькі 12,5%. А гэта азначае ўжо выразную і небясьпечную для чырвонца інфляцыю.

### Новыя арышты вучоных у СССР.

У пачатку месяца ў Маскве ізноў арыштавана значная група найвыдатнейшых вучоных, пераважна прафэсароў Маск. Унівэрсытэту. Арыштаваны ўсе учасьнікі адбыўшагася ў мінулым годзе зьезду гісторыкаў расейскіх і нямецкіх у Бэрліне, ня гледзючы на тое, што вучоныя дэлегаты з Радаў ведама-ж былі пушчаны на зьезд самім радавым урадам. Г. П. У. закідае усім гэтым вучоным, быццам яны заграніцай „ўвайшлі ў стасункі з белай расейскай эміграцыяй“... Сярод арыштаваных такі сусьветны вучоны, як Любаўскі, сябра Расейскай Акадэміі Навук, добра ведамы ўзгадаваным беларусом, як спэцыяліст па гісторыі Вял. Княства Літ.-Беларускага.

## Кароткія навіны.

Ведамы Бурцаў цьвердзіць, што бальшавіцкія агенты здолелі схапіць і забіць правадыра расейскіх ваенна-эміграцкіх арганізацыяў у Парыжу ген. Куцепава, толькі дзякуючы здрадзе найбліжэйшых да яго асобаў. Гэтае цьвярджэньне Бурцава выклікала страшэннае абурэньне збоку вярхоў гэтых арганізацыяў. Але Бурцаў цьвердзіць сваё, пагражаючы ў хуткім часе падаць да агульнага ведама дакладныя весткі аб гэтых здрадніках і аб усім ходзе гэтае цёмнае і жудаснае справы.

Проці-радавыя паўстаньні ў Сібіры ня толькі ня спыняюцца, але ўсьцяж пашыраюцца. Кітайскія газэты паведамляюць, што ў прыморскай вобласьці небясьпека настолькі ўзрасла, што радавы ўрад выслаў туды цэлую армію ў некалькі дзесяткаў тысяч жаўнэроў. Паўстанцы—пераважна сяляне, якія ўцякаюць масова ад „калгаснай“ 5-леткі“...

У выніку перамогі гітляраўцаў і камуністаў на нямецкіх выбарах, пачалі сільна спадаць на курсе нямецкія цэнныя паперы, на сусьветнай біржы, асабліва ў Лёндане і Нью-Іорку. Чуткі аб тым, быццам Гітляр падрыхтоўвае „марш на Бэрлін“—для захопу ўлады,—толькі павялічылі гэтую паніку. Нямецкі ўрад кінуў на гэтыя біржы значныя сумы золата, каб падтрымаць курс папераў. Апрач таго сам прэзыдэнт Гіндэнбург выдаў адозву, ў якой супакойвае публічную апінію сьвету, заяўляючы, што ўрад мае ў сваіх руках усе спосабы, каб забіць у зародку ўсялякія спробы выклікаць непарадкі. Апрач таго Гіндэнбург станоўча заявіў, што Гітляр ня будзе дапушчаны да ўлады...

Ведамы Пражскі ботавы фабрыкант Баця, якога завуць „чэшскім Фордам“, заявіў, што ўводзіць у сваіх вялізарных фабрыках і заводах 5-днёвы тыдзень працы. Як ведама, такі тыдзень ужо завеў у сваіх аўтамабільных фабрыках амэрыканскі Форд—з вялікім пажыткам для сябе і работнікаў. Гэткі тыдзень праўда не зьменшае часу працы, але толькі раскладае яго інакш: замест 6 дзен па 8 гадзін уводзіць 5 дзен па 9 с паловай гадзін.

Па прыкладу Пэру і Аргэнтыны ўжо і трэцяя дзяржава Паўдзен. Амэрыкі—Чылі ўсхвалявана чарговай рэвалюцыяй. Урад зарадзіў такую жорсткую цэнзуру, што дакладных вестак атрымаць пакуль што ня можна.

Нямецкія камуністы і гітляраўцы заяўляюць, што зараз-жа пасьля скліканьня новага Рэйхстагу іх фракцыі выступяць з дамаганьнем, каб нямецкі ўрад адмовіўся плаціць кантрыбуцыю паводле „пляну Юнга“. Нямецкая прэса піша, што тыя фракцыі, якія ў сакавіку г. г. галасавалі проці прыняцьця „пляну Юнга“, маюць цяпер у новым парляманьце большасьць у 305 галасоў проці 262 галасоў прыхільнікаў „пляну“...

З гэтага відаць, якая паважная пагроза вісіць цяпер над гэтым „плянам“.

